


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




**Цытата нумара:**

**Аб воле народа звычайна кажуць тыя, хто яму загадвае**

***Карал Чапек***

**№7 (160), КРАСАВІК 2013 ГОДА**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# РЫНКА Ў ГАРАДКУ НЕ БУДЗЕ?

**У гэтым магчыма пераканацца, калі наведаеце 212 кабінет Гарадоцкага райвыканкама, дзе магчыма азнаёміцца з "Дэталёвым планам развіцця цэнтральнай часткі г. Гарадка" да 2030 году. Не будзе і іншых жадаемых зменаў у развіцці райцэнтра.**

Архітэктар раёна Святлана Тасмінская прадставіць вялікія лісты , як існуючага плана Гарадка, так і таго, які бачыцца ў перспектыве віцебскім праекціроўшчыкам, а таксама выслухае вашы меркаванні адносна плана. Не падрыхтаванаму грамадзяніну цяжка разабрацца ва ўсіх гэтых задумах, бо няма суправаджальнага апісання гэтых ператварэнняў. Так ў доўгатэрміновай перспектыве плануецца мікрараён шматпавярховай забудовы ў накірунку Віцебска на месце сёняшняй Бярозаўкі. У гэтым мікрараёне будзе неабходная інфраструктура: крамы, кавярні, дом быта і г.д.

Але план выклікае больш пытанняў, чым дае адказаў. Па-першае, поўнасцю апраўданай з'яўляецца чутка аб тым, што гандлёвага рынку прыватных прадпрымальнікаў у Гарадку не будзе. Такі эксперымент вырашыла паставіць мясцовая ўлада над прыватнымі гандлярамі Гарадка. Падаецца, што гэта будзе адзіны райцэнтр Віцебшчыны, дзе будзе ліквідаваны рынак дзеля "шчасця народнага". Часова яго перанясуць на навабудоўлю па вул. Камсамольскай, а калі Гарадоцкі райспажыўсаюз пабудуе гандлёвы цэнтр, то туды пусцяць гандляваць прыватнікаў.

Якая будзе гандлёвая плошча для прыватнікаў? Які будзе кошт арэнды гэтых месцаў? Якая частка з амаль сотні існуючых месцаў на рынку туды трапіць? На гэтыя пытанні зараз у архітэктара няма адказу ды і мо ў іншых начальнікаў няма адказу. Але для значнай часткі прыватнікаў гэта будзе азначаць ліквідацыю справы з якой яны зараз жывуць.

Між тым не верыцца, што ў Гарадку няма месца для рынка. Гэта ў Польшчы, Літве, Чэхіі дзяржава эфектыўна развівае прыватны бізнес і там у гандлі дамінуюць сеткавыя крамы. У нашым жа райцэнтры за дваццаць гадоў закрылі і харчовы камбінат, і рамонтны завод, і гідрацэх, а новых прадпрыемстваў не пабудавалі. Ды і ўказанне старшыні Саўміна стварыць у 2013 годзе у кожным райцэнтры па 10 прадпрыемстваў з колькасцю працоўных не менш 50 выглядае казкай бальшавіцкага разліву. Толькі ад прадпрымальнікаў і грамадзян залежыць ці застанецца ў Гарадку або будзе пастаўлены эксперымент па яго ліквідацыі.

Сюрпрызы чакаюць гарадакчан і ў іншым пры ажыццяўленні гэтага плана. Мікрараён вул. Юбілейнай так і застанецца адрэзаны ад цэнтра горада. Ніякай карацейшай дарогі для жыхароў вул. Юбілейная, Палоявая, Завадская і іх завулкаў ў цэнтр горада будаваць не плануецца. Праўда, у пойме ракі Гаражанка, каля сёняшняй плаціны, плануецца стварэнне быццам бы зоны адпачынку. На такую ж зону адпачынку падобна і месца каля гарадскога стадыёна, якая ужо каторы год па вясне затапляецца.

Сюрпрыз чакае і жыхароў райцэнтра, якія карыстаюцца "каменкай". Па плану плануецца закрыць праезд з вул. Ленінскай на вул. Галіцкага, а рух машын і грамадзян накіраваць па дабраўпарадкаванай вул. Інтэрнацыянальнай.

Засталося без адказу і маё пытанне аб месцы дзе будзе Дом культуры. На плане існуючы Дом культуры пазначаны, як раённай бібліятэка, а на цэнтральнай плошчы па ранейшаму будзе кінатэатр "Родзіна" з захоўваемай мазаікай на фасадзе. Праўда там плануецца стварэнне месцаў для досуга і адпачынку. Каля яго або каля Школы мастацтваў застанецца помнік пачварнаму натхняльніку разбуральнага эксперыменту, што выліўся ў генацыд супраць гаспадароў, заможных грамадзян, пачынаючы з 1917 году.

Наогул, без эскізаў новых і рэканструемых аб'ектаў Гарадка план абмяркоўваць складана. Ды і загружаны кабінет архітэктара для гэтага мала падыходзіць.

"Абмеркаванне" плана доўжыцца да 7 траўня і зацікаўленыя грамадзяне могуць выказаць свае адносіны і прапановы па гэтаму плану. Але ці будуць гэтыя прапановы ўлічаны – вельмі сумнеўна...

**Леанід Гаравы**

ПАЖАРАНЕБЯСПЕЧНАСЦЬ

# БЫЛО ПУСТА – СТАЛА ГУСТА

Амаль два месяцы на Гарадоччыне не здараліся пажары. Але за мінулыя сем дзён адбылося аж чатыры. Прычым адзін са смяротным зыходам.

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога аддзялення МНЗ гарадоцкія выратавальнікі знайшлі труп гаспадара ў г.п. Езярышча ў нядзелю 21 красавіка, калі гарэла трохпакаёвая кватэра. Раней 17 красавіка адбыўся пажар у Пальмінскім сельсавеце на тэрыторыі дачнага кааператыва "Прыбрэжны сад", дзе значна пацярпела дача.

Пажары таксама адбыліся яшчэ ў панядзелак і аўторак гэтага тыдня. 22 красавіка згарэлі лазня і хлеў у в. Двухполье Межанскага сельсавета. Прычым пажар адбыўся ў выніку неасцярожнага абыходжання з агнём неўсталяванай асобы пры выпальванне сухой раслiннасцi.

А 23 красавіка на тэрыторыі Першамайскага сельсавета ў в. Сяльцо адбыўся пажар у доме. У доме пад дачу 5х12 м, знішчаны дах, столевае перакрыцце, маёмасць, пашкоджаны сцены. Прычына пажару высвятляецца.

**Т. Гаражанка**

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# АКТЫВІСТА ЧАКАЕ ЧАРГОВАЕ ПАКАРАННЕ

На Леаніда Аўтухова ( г. Гарадок), старшыню Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ, склалі яшчэ пратакол за парушэньне заканадаўства аб СМІ.

Гэта ўжо другое адміністрацыйнае абвінавачаньне з боку супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС паводле падзеяў, што адбыліся больш як месяц таму, 22 сакавіка.

Тады, напярэдадні Дня Волі, Леаніда Аўтухова і яго нагаад на партыйца Кастуся Смолікава затрымалі ў гандлёвым цэнтры «Эвіком». Супрацоўнікі міліцыі склалі на абодвух пратаколы за парушэньне заканадаўства аб масавых акцыях: маўляў, яны раздавалі партыйны бюлетэнь «Магістрат», дзе быў артыкул пра пададзеную на 25 сакавіка заяўку на сьвяточны мітынг.

Мітынг у Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў раённая адміністрацыя забараніла, але афіцыйнага адказу Леанід Аўтухоў на той час яшчэ не атрымаў. Тым ня менш і Смолікава, і Аўтухова Кастрычніцкі райсуд прызнаў вінаватымі і прысудзіў па 5 сутак арышту кожнаму — за запрашэньне на несанкцыянаваную акцыю.

17 красавіка спадару Аўтухову зноў патэлефанавалі з Кастрычніцкага РАУС і паведамілі, што інцыдэнт ня вычарпаны. Яму даслалі позву ў пастарунак і 24 красавіка пазнаёмілі з новым пратаколам. Цяпер яго вінавацяць у парушэньні парадку распаўсюду бюлетэня «Магістрат».

«У пратаколе напісана, што ў нас было больш асобнікаў „Магістрату", чым дазваляе заканадаўства аб СМІ, калі гэтае выданьне не зарэгістраванае і не пэрыядычнае. Паводле заканадаўства колькасьць паасобнікаў не павінна перавышаць 299. Але — хто лічыў, колькі тых паасобнікаў было? Калі ў нас іх забіралі, то не пералічвалі, згрэблі ўсё кучай. Потым нібыта паступіў загад пералічыць, але пры мне гэтага не рабілі: проста прыйшоў міліцыянт і сказаў таму, хто складаў пратакол: „Пішы, што было 1080 асобнікаў". Я так і напісаў у тлумачэньні: ня ведаю, колькі іх было, і не магу сказаць, чаму аказалася так шмат. Увогуле ж пасьля суду 25 сакавіка і пасьля таго, як судовае рашэньне ўступіла ў сілу, усе рэчавыя доказы падлягалі зьнішчэньню. Але бюлетэні ня зьнішчылі. Мне сказалі, што пра гэта нібыта ўжо пасьля суду хадайнічала кіраўніцтва Кастрычніцкага РАУС», — паведаміў Леанід Аўтухоў.

Актывісту сказалі чакаць позвы ў суд. Пэўная дата пачатку працэсу яшчэ не прызначана. Паводле адміністрацыйнага артыкула 22.9 яму пагражае штраф ад 20 да 50 базавых велічынь.

**www.svaboda.org**

ТАКАЯ "СПРАВЯДЛІВАСЦЬ"

# ЖЫЦЬ ТОЛЬКІ НА ДАПАМОГУ

**Суд Гарадоцкага раёна рашыў спагнаць 680 540 руб. з грамадзянкі Р. з г.п. Езярышча атрыманую дапамогу па нагляду састарэлага чалавека, што ў два разы больш за атрыманы ёй заробак паштальёна.**

Суддзя Гарадоцкага суда Алёна Віхаценка разгледзіла іск пракурора Гарадоцкага раёна да грамадзянкі Р., якая ў 2012 годзе даглядала састарэлую грамадзянку А., 1921 года нараджэння, інваліда 1 групы. Пракурор раёна ў інтарэсах Гарадоцкага упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне хадайнічаў аб спагнанні з грамадзянкі Р. 680 540 рублёў на карысць упраўлення ў сувязі з нанесенай шкодай, бо грамадзянка Р. пад час дагляду 25 дзён працавала паштальёнам на 0,33 стаўкі.

Упраўленне і пракурор пры выстаўленні іску кіраваліся Пастановай Савета Міністраў №1149 ад 2006 года, па якой атрымліваць дапамогу могуць толькі грамадзяне, якія не працуюць, не атрымліваюць дапамогу беспрацоўнага, іншыя дапамогі ў працаздольным узросце. Упраўленне райвыканкама абвінаваціла грамадзянку Р. у тым, што яна адпаведна нормаў гэтай Пастановы ў пяцідзённы тэрмін не паведаміла аб сваёй працы і незаконна ў кастрычніку атрымала дапамогу па нагляду за інвалідам першай групы.

Пад час паседжання грамадзянка Р. тлумачыла суду, што яна толькі давала адпачынак паштальёнцы мясцовага аддзялення сувязі, працавала ўсяго 18 дзён па дзве з паловай гадзіны і атрымала за гэта толькі 311 тысяч рублёў. Пры гэтым грамадзянка Р. добрасумленна выконвалі свае абавязкі па дагляду састарэлай суседкі ў чым не было ніякіх сумненняў з боку кіраўніцтва упраўлення. Напрыканцы судовага паседжання адказчыца прасіла суд зыскаць з яе толькі 311 тысяч рублёў, якія яна не магла зарабіць па Пастанове СМ РБ.

Але суддзя Віхаценка задаволіла іск пракурора ў поўным аб'ёме – зыскаць з грамадзянкі Р. на карысць Гарадоцкага упраўленння па працы, занятасці і сацыяльнай абароне 680 540 рублёў. Дадзенае рашэнне не задаволіла адказчыцу, якая лічыць сябе пацярпелай, бо на пошце яна працавала толькі часова і не на поўную стаўку і таму гэтыя абставіны павінен быў улічыць суд.

Дэ факта таксама пацярпелай у гэтай сітуацыі засталася састарэлая 92-х гадовая жанчана, якую зараз ніхто пастаянна не даглядае. Сёння ў дзеяздольным узросце аказваць пастаянны нагляд за інвалідам за мізэрную дапамогу і не мець магчымасці падпрацаваць у г.п. Езярышча жадаючых няма. А нараджае гэтыя негатыўныя тэндэнцыі недальнабачная пастанова саўмінаўскіх чыноўнікаў, якая не улічвае павелічэнне колькасці грамадзян састарэлага ўзросту і памяншэнне ў правінцыі працаздольнага насельніцтва, якое масава імігруе на працу ў Расіі, асабліва з памежных тэрыторый.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Таксама выданне размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

МЕРКАВАНЕ

# РЭЖЫМ БЕЗ ФОТАШОПУ

**Суд у справе Belarus Press Photo 2011 і прызнаньне альбому экстрэмісцкім абазначыў пераход рэжыму у новы якасны стан.**

Да гэтага пра рэжым можна было казаць як пра дыктатуру (жорсткае падаўленне, аж да забойстваў, палітычных апанэнтаў) і аўтакратыю (усё кантралюецца адной асобай).

Але пры аўтакратыі звычайна застаюцца «зоны свабоды» ці, лепей сказаць, своеасаблівыя палітычныя і інтэлектуальныя «гета», дзе чалавек можа даць волю сваім меркаваньням. У часы Брэжнева іх ролю адыгрывалі «кухні» — не было сям'і, ад рабочага да члена ЦК і сакратара абкаму, дзе нельга было не пачуць анекдоты пра Леаніда Ільіча (сьведчу як сын сакратара абкаму). Напрыклад, наш куратар на журфаку чула, як мы расказваем такія анэкдоты — і рабіла выгляд, што ня чуе. А вось пры Сталіне такое было немагчыма — яна павінна была б імгненна дакласьці, і нас бы безумоўна пасадзілі — а калі б не даклала, пасадзілі б яе.

Пры таталітарызме ўлада кантралюе ня толькі прэсу, плошчу, студэнцкую аўдыторыю, калектыў — яна кантралюе душу. Таксама, як адзначае Вікіпэдыя, «важнай асаблівасьцю таталітарызму зьяўляецца стварэньне ілюзіі поўнага ўхваленьня народам гэтай улады».

Сутнасьць судовага працэсу ў Ашмянах — адлюстраваньне (без ідэалягічнага фоташопу!) рэчаіснасьці — прызнанае парушэньнем закону. Такім чынам, з гэтага моманту ўлада бярэ на сабе функцыі вызначаць, як чалавек павінен ацэньваць тое, што бачыць навокал (у тым ліку і яе, уладу). Іншымі словамі — як ён павінен думаць.

Гэта ўжо — прыкмета таталітарызму.

Зусім магчыма, што гэтая прыкмета не атрымае разьвіцьця. Але ня выключана, што зробіца агульнай практыкай.

Як будзе — залежыць ад грамадзтва.

Своеаблівасьць Лукашэнкі ў тым, што цягам свайго амаль дзевятнаццацігадовага кіраваньня наступ на дэмакратыю, на свабоду, на нацыянальнае Адраджэньне ён рабіў, так бы мовіць, навобмацак: праглынуць ці не?

Зьняў з пасады галоўнага рэдактара парлямэнцкай газэты Сярэдзіча — грамадзтва, у большасьці, прамаўчала — і пачаўся маштабны ціск на прэсу.

Зьбіў дзевятнаццаць дэпутатаў БНФ — грамадзтва, у большасьці, прамаўчала — і пад дубінкамі АМАПу апынуліся тысячы і тысячы.

Ліквідаваў нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа — грамадзтва, у большасьці, прамаўчала — і зьявіліся абласныя цэнтры, дзе няма ніводнай беларускай клясы.

Як будзе далей — і цяпер залежыць ад грамадзтва. Прамаўчыць — значыць, можна будзе чакаць сьпяваньня дзяржаўнага гімну перад рабочай зьменай ды зачытваньня цытатаў кіраўніка дзяржавы перад пачаткам занятках у школах і ВНУ, як гэта адбываецца ў некаторых сярэднеазіяцкіх краінах і ў Паўночнай Карэі.

А той, хто ня будзе сьпяваць — пойдзе пад суд.

**Сяргей Навумчык**

ДАРОЖНАЯ ПРАБЛЕМА

# "НЕАБХОДНАСЦІ НЯМА"

**Для гарадоцкіх чыноўнікаў няма неабходнасці займацца дабраўпарадкаваннем і ўмацаваннем дарог прыватнага сектару. Уладальнікі аўто рухаюцца ў прыватным сектару Гарадка, як па прасёлачных дарогах**

Кіраўніцтва Гарадоцкага райвыканкама не арганізавала сістэму маніторынга за станам дарог у прыватным сектары райцэнтра, а таксама не мае праграмы іх рамонту. Таму кожная вясна і восень ператварае значныя ўчасткі дарог ў аднапавярховым Гарадку ў непралазную дрыгву.

Пра дадзеную праблему мы пісалі неаднаразова. Апошні раз гэта была публікацыя ў лістападзе, калі ніякага грэйдзіравання не праводзілі пасля фінішу палатачнай кампаніі. Тады на працягу прыватнага сектару Гарадка. Улада, якая кажа, што яна для народа, ўжо за амаль дваццаць гадоў не знайшла сродкаў ды і не жадала вырашыць гэтае пытанне. Сродкі ўбухваюцца ў лядовыя палацы, "фантастычныя" заробкі хакеістаў, пампезныя Дажынкі, а жыхары старых забудоў райцэнтраў жывуць па восені і вясне быццам бы ў лесе, дзе няма нармальных дарог.

Фота былі зроблены амаль тыдзень назад, але з таго часу стан дарог толькі пагоршыўся. Укінутыя ў багну



*Вялікія лужы на вул. Завадская, а далей ужо багна*

тыдня адразу адрэагавалі і двойчы правялі грэйдзіраванне і... забылі. У зіму тыя дарогі засталіся не грэйдзіраванымі і адпаведна ў кепскім стане.

Сёлетняя вясна засведчыла іх, кажучы бюракратычнай мовай, ненарматыўны стан. Амаль месяц, як дарожнае палатно вызвалілася ад снегу, але элементарнага грэйдзіравання на іх няма. Праўда, на асобных вуліцах, як напрыклад Меліяратыўная, яго і не правесці зараз, бо гэтая вуліца стала суцэльнай дрыгвой.

Дрыгвой стала і частка вуліцы Завадская, дзе на трыццаць метраў правалілася дарога, што толькі на першай перадачы праз гэту дрыгву магчыма праехаць. А едуць праз яе жыхары мікрараёна вул. Юбілейная. Веснавыя ручаі перарazалі вуліцу Талкачова, дзе ўтварыліся вялікія лужыны.

Аналагічны стан і іншых вуліц машына ці некалькі машын гравія ніякага паляпшэння не далі. Патрабуецца сістэмная своечасовая праца па прывядзенню дарог прыватнага сектару райцэнтраў ў нарматыўныя нормы. І гэта павінен усвядоміць галоўны "хакеіст" краіны, а мясцовыя ўлады адпаведна раставіць прыярытэты ва ўкладанні сродкаў: ў кветкі ці дарогі...

**Л. Гаравы**

***Ад рэдакцыі:*** *Пасля з'яўлення гэтага матэрыялу на сайце і звароту ў райвыканкам правялі першае грэйдзіраванне на Талкачова, а 29 красавіка даехалі і да Палявой з Юбілейнай, бо пачаў працаваць галоўны дарожны майстар — Сонца. Але ліквідацыя багны на вуліцы Завадской застаецца на сумленні камунальнікаў і мясцовыхуладаў,якісваечасовае грэйдзіраванне гарадоцкіх вуліц прыватнага сектару.*

НАША ПРАВАСУДДЗЕ

# СУДЗЬДЗЯ ГРАБОЎСКАЯ ЗАСТАЛАСЯ БЕСПАКАРАНАЙ

**Леанід Аўтухоў, старшыня Віцебскай абласной філіі Партыі БНФ, атрымаў адказ з упраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама наконт сваёй скаргі на суддзю Кастрычніцкага суда г. Віцебска Іну Грабоўскую.**

«У ходзе праведзенай праверкі фактаў грубых і непаважлівых адносін да ўдзельнікаў працэсу з боку судзьдзі суду Кастрычніцкага раёну г. Віцебску Грабоўскай І. В. ня выяўлена, падстаў для прыцягненьня яе да дысцыплінарнай адказнасьці ня ўгледжваю», – гэтак першы намесьнік начальніка галоўнага ўпраўленьня юстыцыі Віцебскага аблвыканкаму Ігар Каржоў адказаў на заяву, якую накіроўваў у згаданае ведамства кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў.

Леанід Аўтухоў прасіў галоўнае ўпраўленьне юстыцыі ўзбудзіць дысцыплінарную вытворчасьць у адносінах да судзьдзі Іны Грабоўскай, якая 25 сакавіка вынесла пастанову аб пакараньні яго і ягонага аднапартыйца Кастуся Смолікава адміністрацыйным арыштам за раздачу газэты і ўлётак у гандлёвым цэнтры. Названая пастанова, на думку палітыка, выносілася з парушэньнем дзеючага заканадаўства, суд быў старонным і прадузятым, а судзьдзя не абараніла яго грамадзянскія і палітычныя правы ды законныя інтарэсы.

Леанід Аўтухоў адзначыў у сваёй заяве, што судзьдзя падчас працэсу паводзілася груба і непаважліва ў адносінах да прысутных у судзе грамадзян. Партыйны лідэр таксама прывёў шэраг фактаў парушэньня ёю заканадаўства: выносячы рашэньне, судзьдзя Грабоўская не ўлічыла той акалічнасьці, што ён знаходзіўся пад вартаю больш за 48 гадзін, што супярэчыць частцы 2 артыкулу 11.2 працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях; апроч таго, яму было дадзена недастаткова часу на пошук адваката і падрыхтоўку сваёй абароны. Таму, мяркуе сябра партыі БНФ, рашэньне, прынятае ў дачыненьні да яго судом, зьяўляецца несправядлівым і не грунтуецца на законе, а судзьдзю Грабоўскую трэба было б пакараць. Аднак у галоўным упраўленьні юстыцыі аблвыканкаму не прыслухаліся да аргументаў палітыка і адмовіліся задаволіць просьбу, выкладзеную ў ягонай заяве.

Пра гэта паведаміла **"Віцебская вясна": vitebskspring.org**

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

# ПЛАН ПРАПАНАВАНЫ ДЛЯ ГРАМАДСКАГА АБМЕРКАВАННЯ

**Грамадзяне райцэнтра неаднаразова выказвалі абурэнне наконт закрытасці працэса падрыхтоўкі быццам бы да "Дажынак" 2014г. у Гарадку. У рэшце-рэшт Гарадоцкі райвыканкам прапанаваў матэрыялы "Дэталёвы план развіцця цэнтральнай часткі г. Гарадка" для грамадскага абмеркавання.**

Пра пачатак абмеркавання плана са старонак газеты "Гарадоцкі веснік" паведаміў намеснік старшыні Гарадоцкага райвыканкама Фёдар Бастаў. Зацікаўленыя грамадзяне маюць магчымасць з 23 красавіка па 7 траўня ў памяшканні Гарадоцкага райвыканкама азнаёміцца з "Дэталёвым планам развіцця цэнтральнай часткі г. Гарадка".

Свае меркаванні і прапановы грамадзяне могуць выказаць у пісьмовай і вуснай форме ў кабінеце №212 або па тэлефону 41134. Пры жаданні ініцыятыўныя грамадзяне могуць звярнуцца ў райвыканкам з заявай аб правядзенні сходу.

Пытанне закрытасці падрыхтоўкі да быццам бы "Дажынак" хвалюе жыхароў розных частак горада. Незалежнае выданне "Гасцінец" рэдакцыйны артыкул "Улада сама для сябе" ад 16 красавіка прысвяціла закрытасці мясцовай улады пры падрыхтоўцы да Дажынак. У артыкуле ставілася пытанне аб лёсе гандлёвага рынку, а таксама хлявоў і палеткаў грамадзян на Гагарына. Ды і самі грамадзяне пачалі ставіць падобныя пытанні перад Васілём Муранковым, старшынёй Гарадоцкага райвыканкама.

Нагадаем, што па ўказанню старшыні аблвыканкама Аляксандра Косінца асноўныя работы ў Гарадку трэба завяршыць ужо менш чым праз сем месяцаў, а абмеркаваць план прапанавалі толькі напрыканцы красавіка.

**Л. Антонаў**

КРЫМІНАЛ

# ПАСЛЯ ЗІМЫ СТАЎ ВЯДОМЫ КРАДЗЁЖ

**Жыхарка Віцебска, наведаўшы свой дачны домік пасля зімы, не далічылася маёмасці на мільён рублёў**

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС 16 красавіка ў 15 гадзін 25 хвілін у Гарадоцкі РАУС звярнулася жыхарка Віцебска 1963 года нараджэння. Грамадзянка паведаміла, што ў перыяд з 2 студзеня па 16 красавіка неўсталяваны злачынец, узламаўшы дзвярныя завалы, пракраўся ў яго дачны дом, размешчаны ў вёсцы Сечанка. Злодзей здзейсніў крадзеж аудыёмагнітафона, дарожнага ровара і 2-х вадзяных электрапомпаў. Жанчына ацаніла нанесеную шкоду ў 1 млн. рублёў.

Папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў навучэнец ліцэя 1995 года нараджэння, раней судзімы за крадзеж і ўгон. Гэты навучэнец знаходзіцца на ўліку ў ІСН, а з ім быў шчэ непрацуючы, раней судзімы за крадзеж грамадзянін 1990 года нараджэння.

17 красавік Гарадоцкі аддзел следчага камітэта ўзбуззіў крымінальную справу па арт. 205 ч. 2 КК. Пакарнне па гэтаму артыкулу прыдугледжана самае рознае ад папраўчых прац да двух гадоў аж да пазбаўленне волі да чатырох гадоў.

**Т. Гаражанка**

НАША БУДУЧЫНЯ

# КРАІНА ГУБЛЯЕ СВОЙ СУВЭРЭНІТЭТ

**Лідэры апазыцыйных партыяў і рухаў настойваюць на нэўтральным статусе Беларусі, які запісаны ў Канстытуцыі.**

На сустрэчы ў Менску з Аляксандрам Лукашэнкам міністар абароны Расеі Сяргей Шайгу паведаміў пра намер Расеі разьмясьціць у Беларусі сваю авіяцыйную базу. Сёлета плянуецца разьмясьціць першае дзяжурнае зьвяно баявых зьнішчальнікаў. Да таго ж, паводле дамоўленасьці Лукашэнкі і Пуціна ўжо ў 2014 годзе Расея паставіць у Беларусь чатыры дывізіёны «С-300» для абароны паветранай прасторы, перадае радыё "Свабода".

Старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандар Мілінкевіч лічыць гэтыя дамоўленасьці вялікай небясьпекай для Беларусі. На яго думку, гэта не ўмацаваньне абароназдольнасьці, а пагроза. Бо Беларусь павінна захоўваць статус нэўтральнай дзяржавы, як гэта запісана ў Канстытуцыі:

«І нам ваенныя блёкі, асабліва сёньня, абсалютна непатрэбныя. Але гэта расплата за тое, што мы маем падарункі ў выглядзе танных нафты і газа, расейскія рынкі даступныя. Не бывае бясплатных падарункаў у такіх адносінах. Таму я лічу, што гэта вельмі кепска. Асабліва мяне зьдзіўляюць словы Шайгу пра тое, што гэта праявы братэрскіх пачуцьцяў, і яны зьбіраюцца бараніць. Таму гэта проста рэалізацыя маскоўскага пляну па ўмацаваньні ваеннай магутнасьці. На жаль, краіна губляе свой сувэрэнітэт. І эканамічны, калі прадае адной краіне сваю эканоміку. А палітычны вось такімі крокамі. На жаль, пагроза вялікая».

Партыя Беларускага Народнага Фронту выступіла са зваротам, асноўнай тэзай якога тое, што расейскія зьнішчальнікі на нашай зямлі — пагроза для кожнага беларуса. Працягвае старшыня партыі БНФ Аляксей Януковіч:

«Разьмяшчэньне на тэрыторыі Беларусі расейскіх вайсковых базаў ня толькі супярэчыць нацыянальным інтарэсам і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, як нэўтральнай дзяржавы, але і ставіць пад пагрозу бясьпеку кожнага беларуса.

Расея перайшла да адкрытых, непрыхаваных дзеяньняў, скіраваных на ператварэньне Беларусі ў буферную зону па абароне сваіх інтарэсаў. Як шмат разоў бывала за апошнія 200 гадоў, Крэмль хоча за кошт жыцьцяў беларусаў гарантаваць свой спакой і бясьпеку.

Мы не пакінем гэтую справу і будзем усімі даступнымі негвалтоўнымі сродкамі пратэставаць супраць разьмяшчэньня расейскіх зьнішчальнікаў на беларускай зямлі і супраць іх знаходжаньня ў беларускім небе».

НАША "СЯБРОЎКА"

# РАСІЯ БУДЗЕ ШАНТАЖАВАЦЬ БЕЛАРУСЬ ПАСТАЎКАМІ НАФТЫ

**Урад Расіі падрыхтаваў ліст беларускаму боку пра нежаданне ўзгадняць павелічэнне паставак нафты на беларускія НПЗ у трэцім і чацвёртым кварталах 2013 года. Прычына гэтага — у невыкананні Мінскам умоў па вяртанні ўзгодненага аб'ёму нафтапрадуктаў, выробленых з расійскай нафты, а таксама ў зацягванні рэалізацыі сумесных інтэграцыйных праектаў.**

У прыватнасці, "нафтавы ўльтыматум" Расіі датычыць зацягвання стварэння сумеснага прадпрыемства паміж расійскім КамАЗам і беларускім МАЗам, продажу "Гродна Азота", Мінскага завода колавых цягачоў і гэтак далей, паведамляюць "Вести" са спасылкай на крыніцу ў расійскім урадзе.

"Лукашэнка ўвесь час набівае цану, але на свае заявы аб тым, што ён нічога не аддасць і не прадасць, ён выкліча рэакцыю ў адказ з боку Расіі", — заявіў у сваю чаргу гендырэктар Фонду нацыянальнай энергетычнай бяспекі Расіі Канстанцін Сіманаў, адзначыўшы, што рана ці позна пытанне з прыватызацыяй беларускіх актываў Расія вырашыць.

Як паведамляў "Тэлеграф", прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 19 красавіка ў сваім штогадовым пасланні да народа, кажучы аб праблемах прыватызацыі, заявіў, што таргі па продажы кантрольных пакетаў акцый буйных беларускіх прадпрыемстваў павінны праходзіць адкрыта, а не "ў кулуарах".

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ён заўсёды высвятляе ў патэнцыйных пакупнікоў, што яны могуць прапанаваць беларускай эканоміцы, што атрымае беларускі народ ад аб'яднання МАЗа з КАМАЗам, бо часам аказваецца, што некаторыя "замежныя інвестары хочуць разваліць МАЗ, каб не было канкурэнцыі".

**telegraf.by**

СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ!

# ПАЛІТВЯЗНІ І "КРЫМІНАЛЬНІКІ"

**Для Лукашэнкі пытанне палітвязняў важна таму, што яно пра яго прэстыж, і таму, што яно пра Беларусь, якой ён кіруе. Для Еўрасаюза яно важна таму, што яно пра яго, Еўрасаюза, прэстыж, што для яго значна важней, чым Беларусь.**

Падчас нядаўняга візіту ў Хойніцкі раён Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз паўтарыў сваю любімую мантру пра палітвязняў: маўляў, хто такія, ведаць ня ведаю, ў нас і артыкулаў палітычных няма, усе сядзяць за крымінальныя злачынствы. Насамрэч гэтая дэмагогія мае ўжо сталы век, менавіта тое самае казалі савецкія і іншыя камуністычныя правадыры аб зняволеных сацыялістычных гулагаў.

Але Лукашэнку, відаць, вынаходніцтва вельмі падабаецца, на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі ён разыграў той жа спектакль, адказваючы на пытанне журналісткі з «Нашай нівы». Зразумела, то чыстая гульня на публіку, наўрад ці сам прэзідэнт ці, напрыклад, міністр Макей валяюць такім чынам дурня з заходнімі партнёрамі. Тым ня менш у інфармацыйнай плашчыні свае законы і байку пра «крымінальнікаў», мяркую, мы пачуем яшчэ не раз. Між тым ёсць адказ, які гэтую дэмагогію прыбівае.

Якія такія палітвязні? А дакладна такія ж, якія былі ў 2008 годзе. Зараз палітычных артыкулаў няма? Дык і тады не было. Здзьвіжкоў, Дашкевіч, Клімаў, Парсюкевіч, нарэшце, Казулін былі банальнымі крымінальнікамі? Дык чаго ж іх тады вызвалялі да тэрміну? І хіба ўсе яны пісалі прашэнні аб памілаванні? А ці можна паглядзець на прашэнне, напрыклад, Казуліна? Калі тады можна было вызваліць названых «крымінальнікаў», чаму немагчыма зараз? Можа прычыны таго ў беларускай улады і ёсць, але яны абсалютна не звязаныя са статусам зняволеных, вызвалення якіх дамагаецца Захад — гэты статус зараз дакладна такі ж, якім быў тады, да жніўня 2008 году.

Хоць не выключана, што гэтыя пэрлы красамоўя — насамрэч падрыхтоўка свайго электарату якраз да хуткага вызвалення палітвязняў. Гэта, як бы там ні было, саступка і ёсць жаданне яе як мага лепш завуаляваць, падаць адпаведнае патрабаванне, як дзіўны капрыз заходніх палітыкаў, а крок афіцыйнага Мінску насустрач — як праяву незямной дабрыні кіраўніка дзяржавы.



Але застаецца праблема рэабілітацыі. Вызваленне можна патлумачыць вярхоўнай дабрынёй і гуманнасцю, рэабілітацыя — гэта прызнанне невінаватасці зняволеных ад пачатку, прызнанне ў самым спрыяльным для ўладаў выпадку судовай памылкі. Тут захаваць твар значна больш складана, калі наогул магчыма.

Але і другі бок знаходзіцца дакладна ў такой жа сітуацыі. Тут ёсць, зразумела, і маральная логіка — рэабілітацыя цяперашніх палітвязняў дае пэўную гарантыю, што іх месца ў хуткім часе не зоймуць новыя. Але непараўнальна большае значэнне мае тое, што Еўрасаюз паставіў на гэта свой прэстыж.

Еўрасаюз не заяўляў, напрыклад, што не будзе мець ніякіх спраў з Масквой ці Пекінам, пакуль тыя не вызваляць, скажам, Міхаіла Ходаркоўскага ці Лю Сяобо — лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру за 2010 год. Таму Еўропа без асаблівых пакутаў сумлення і палітычных стратаў і можа падтрымліваць з РФ і КНР шчыльныя рабочыя адносіны, адно заклікаючы пры выпадку да вызвалення гэтых асобаў. Маглі і да беларускіх палітвязняў паставіцца гэтак жа. Доўгая размова, чаму паставіўся інакш, але зараз гэта насамрэч другасна. А першасна — той факт, што паставіліся так, як паставіліся.

Варта сказаць, што беларускія палітыкі — прычым як з боку ўлады, так і з боку апазіцыі — часам не ўсведамляюць практычна, што Еўрасаюз, ЗША, Расія вядуць глабальную палітыку. Вось у заяве Някляева-Мілінкевіча-Януковіча ўтрымліваецца заклік да Еўропы скасаваць у аднабаковым парадку візы для беларусаў. Выдатная ідэя, але яе ініцыятарам, відаць, не прыходзіць у галаву, што зрабіўшы гэта, Еўрасаюзу будзе надзвычай цяжка тлумачыць, не толькі, скажам, Азербайджану і Расіі, але найперш Алжыру і Марока, чаму такі шчодры жэст ня робіцца ў адносінах да іх, і чым яны горшыя за Беларусь.

Сітуацыя з беларускімі палітвязнямі для Еўрасаюзу у нечым падобная. Паўтаруся, няважна ўжо насамрэч, чаму Брусель палічыў патрэбным жорстка звязаць нармалізацыю адносін з Мінскам з лёсам палітвязняў. Але за паводзінамі ЕС глядзяць шмат уважлівых вачэй на ўсіх кантынентах. І калі раптам высветліцца, што слова Еўрасаюзу ня дорага каштуе ў адносінах з краінай, праіснаванне якой на тых кантынентах можа і не падазраюць, то для Еўрасаюзу гэта можа мець непрыемныя наступствы ў самых нечаканых месцах планеты. І наяўнасць гэтага мэханізму ўраўноўвае стаўкі: для Лукашэнкі пытанне важнае і таму, што яно пра яго прэстыж, і таму, што яно пра Беларусь, якой ён кіруе.

Для Еўрасаюзу яно важна таму, што яно пра яго, Еўрасаюза, прэстыж, што для яго значна важней, чым Беларусь.

**Юры Дракахруст**
**Радыё "Свабода"**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# РАСЕЯ ПАСТАВІЛА ДЫЯГНАЗ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ

**У першым квартале рост ВУП склаў 3,5% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Па выніках года беларускі ўрад мае намер выйсці на куды больш высокія тэмпы (славутыя 8,5%) росту. У той жа час Расія лічыць, што магчымасці эканамічнай мадэлі Беларусі абмежаваныя, і прагназуе на перыяд да 2030 года адносна невысокія тэмпы яе росту.**

***Расейскі погляд на беларускае будучыню***

Па дадзеных за першы квартал, аб'ём беларускага ВУП у студзені-сакавіку склаў 123,3 трлн. рублёў, і павялічыўся ў параўнанні з першым кварталам 2012 года ў супастаўных цэнах на 3,5%.

Першы квартал і ў мінулым годзе даваў таксама абнадзейлівыя паказчыкі (рост ВУП у студзені-сакавіку 2012-га склаў 3%), аднак па выніках года, нагадаем, эканамічны рост знізіўся да 1,5%.

Як будзе ў гэтым годзе? Прагнозы існуюць розныя. Аднак у расійскім урадзе не чакаюць высокіх паказчыкаў эканамічнага росту ў Беларусі.

«Ва ўмовах адсутнасці ўздзеяння знешніх і ўнутраных шокаў магчымасці росту беларускай эканомікі да 2030 года ацэньваюцца каля 4 адсоткаў», - гаворыцца доўгатэрміновым прагнозе, які падрыхтавала Мінэканамразвіцця Расіі.

экспертаў па развіцці эканомікі ў Казахстане практычна супадаюць з афіцыйнымі, а вось па Беларусі, карціна, як бачым, зусім іншая.

Прагнозныя паказчыкі па росту ВУП, запланаваныя беларускім урадам, істотна адрозніваюцца ад тых ацэнак, якія прыводзяць эксперты міжнародных арганізацый.

«Прагнозы не супадаюць, так як мы неадэкватна ацэньваем свае магчымасці. Беларускі бок зыходзіць з таго, што прадукцыя, якую мы вырабім, знойдзе збыт. У той жа час эксперты міжнародных арганізацый будуюць прагнозы, зыходзячы з попыту на прадукцыю. Павелічэння попыту на традыцыйныя тавары, якія мы вырабляем, сёння няма. Таму заканамерна, што складскія запасы ў Беларусі растуць», - тлумачыць нестыкоўку афіцыйных прагнозаў Беларусі з ацэнкамі міжнародных арганізацый намеснік старшыні Беларускай навукова-

| | Беларусь | Казахстан |
|---|---|---|
| Официальный прогноз | 8.5% | 6.0% |
| Прогноз Минэкономразвития РФ | 3.7% | 4%-5% |
| Прогноз МВФ | 3.4% | 5.7% |
| Прогноз Всемирного банка | 4.0% | 5.5% |

А вось у Казахстане, які таксама ўваходзіць у АЭП, сярэднегадавыя тэмпы эканамічнага росту, паводле ацэнак Мінэканамразвіцця, могуць быць вышэй. На думку спецыялістаў расійскага міністэрства, у выпадку развіцця несыравінай прамысловасці сярэднегадавыя тэмпы росту эканомікі Казахстана будуць складаць каля 5,5%.

Паказальна, што прагнозы

прамысловай асацыяцыі Георгій Грыц.

Як бачым на табліцы вышэй, і Сусветны банк, і Міжнародны валютны фонд, і цяпер Мінэканамразвіцця Расіі прагназуюць патэнцыйна магчымы рост беларускай эканомікі на ўзроўні не вышэй за 4%.

*(скарочана)*

**Дзмітрый ЗАЯЦ**
**naviny.by**

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ - 2013

# ШЛЯХУ НЕ ХАПАЕ НЕ ТОЛЬКІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ...

**Магчыма, мелі рацыю беларускія "зялёныя", калі крытыкавалі падрыхтоўку да "Чарнобыльскага шляху" і казалі, што ён ператварыўся ў дрэнны працяг Дня Волі. Кажуць, горш было толькі на мінулагодніх "Дзядах".**

Цяпер яшчэ не зразумела, што адыграла сваю ролю ў тым, што традыцыйна масавая акцыя апазіцыі, да таго ж прызваная яднаць увесь народ, прайшла з такой малой колькасцю ўдзельнікаў. Але, што адбылося, тое адбылося.

Спачатку ўсё было добра. Незвычайнымібылідвамоманты. Першы: арганізатары вырашылі нікога не чакаць. Запланавалі пачатак шэсця ў 19 гадзін — без дзесяці хвілін 19 пачалі выбудоўваць калону і роўненька ў сем вечара стартанулі з месца. І літаральна праз хвілін дзесяць стала зразумела: нягледзячы на добрае надвор'е, на цудоўны вечар і на нагоду сабрацца разам і на тое, што нікому заўтра не трэба на працу, народу прыйшло столькі ж, калі не менш, чым на Дзень Волі.

Далей усё пайшло, як звычайна. Людзі без якіх-небудзь эксцэсаў павярнулі з праспекту Незалежнасці на вуліцу Сурганава, па тратуары, з пераходамі скрыжаванняў на зялёнае святло прайшлі да плошчы Бангалор. Чуліся лозунгі "Свабоду палітвязням!", "Атам мірным не бывае!", "Не АЭС на Беларусі!", І вядома ж, "Жыве Беларусь!".

Пляцоўка на Бангалоры паказала, што "мяккая дэмакратыя" скончаная. Яна апынулася абгароджана турнікетамі і металашукальнікамі. Праз дагляд прапускалі ўсіх. Частка народа не пагадзілася на такую працэдуру і сышла — у першых шэрагах гэта зрабілі анархісты. Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі забараніць праносіць на пляцоўку мегафоны. Але арганізатары гэты дазвол усё ж выбілі. Хоць гэта і дзіўна: бо ім жа дазволілі прывезці нармальную гукаўзмацняльную апаратуру. Чамусьці гэтага зроблена не было.

У выніку на пляцоўцы перад сцэнай аказалася сотні паўтары чалавек. Ад асноўнай групы, як і ў Дзень Волі, адкалолася купка моладзі з гітарамі, якія спявалі беларускія песні асобна ад мітынгоўцаў. Але калі ў Дзень Волі гэта выглядала прыстойна і дарэчы (як-ніяк Дзень Волі ўсё ж такі свята), то ў дзень жалобы, дзень, у які адбылася аварыя на ЧАЭС, песні і скокі глядзеліся ніякавата. Адразу ўзгадваўся суд за нейкі "Шлях" 1990-х гадоў і сведка-міліцыянт, які ўвесь час сцвярджаў, што прысутныя на акцыі "святкавалі гадавіну аварыі на ЧАЭС"...

Падобна на тое, што ў гэты дзень "затармазіла" нават міліцыя, пачаўшы пасля акцыі спачатку затрымліваць, а пасля адпускаць журналістаў. Патрапілі пад раздачу карэспандэнты "Нашай Нівы" і "Радыё Рацыя".

Чаму ж на "Шлях" прыйшло так мала людзей? Былы кандыдат у прэзідэнты ад БНФ Рыгор Кастусёў патлумачыў гэта тым, што людзі ў пятнічны вечар паз'язджалі на дачу адкрываць "пасяўную". Яшчэ адзін кандыдат у прэзідэнты, гэтым разам ад БХД, Віталь Рымашэўскі наогул абвясціў акцыю паспяховай, і зваліў усё на "рэжым": маўляў, удзельнікі не пайшлі на месца збору, і не засталіся на мітынг, таму што "міліцыя чыніла перашкоды".

Справа, напэўна, не ў пасяўной, і не ў міліцыі. Па-першае, у чымсьці ёсць справядлівасць "зялёных" і ліквідатараў, якія заявілі, што "Шлях" ператвараецца ў палітычнае шоў, і страціў, уласна кажучы, саму ідэю акцыі. Ну а па-другое ...

Па-другое, персанальна аўтар гэтых радкоў, які хадзіў на прэс-канферэнцыі і круглыя сталы, прысвечаныя падрыхтоўцы да "Шляху", нават на гэтых канферэнцыях і круглых сталах не бачыў аніводнай (!!!) улёткі ці налепкі з заклікам прыйсці на акцыю. Тым больш іх не было відаць на слупах і ў пад'ездах Мінска.

"Шляху" не хапае не толькі ўдзельнікаў. "Шляху" не хапае той самай прымітыўнай рэкламы на слупах. Усе размовы пра тое, што на такую рэкламу "няма грошай", альбо што "арганізатараў папярэдзяць, бо нельга да афіцыйнага дазволу", — гэта толькі "адмазкі". У 1990-х грошай было яшчэ менш, а адсутнасць афіцыйнага дазволу нікому не перашкаджала...

*(скарочана)*

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# ШТРАФЫ — НАРОДУ...

**Вясна надышла, але праблемы не скончыліся. Мы ўсё яшчэ адварочваемся назад, зазіраючы ў зіму: а раптам пахаладнее? Азіраецца на зіму нават той, хто не мае да нашых «Хаўераў» аніякага дачынення.**

Інфляцыя ў Беларусі па выніках І квартала ў 10,8 разы перавысіла сярэднееўрапейскі ўзровень, сведчыць агляд Расстата, падрыхтаваны на аснове публікацый агульнаеўрапейскага статыстычнага агенцтва Еўрастат і нацыянальных статыстычных дадзеных.

«Сярод разгляданых краін з пачатку бягучага года цэны больш за ўсё ўзраслі ў Беларусі (на 5,4%), Турцыі (на 2,9%), Нідэрландах (на 2,3%), Эстоніі (на 2,2%)», — гаворыцца ў паведамленні. У Расіі і Казахстане інфляцыя склала 1,9%, ва Украіне — 0,1%. У сярэднім па краінах ЕС рост коштаў з пачатку года склаў 0,5%.

Ну, пра 5,4% інфляцыі мы і без Расстату ведалі. А чаму так адбываецца? Хто вінаваты? Здавалася б, Мінэканомікі, бо цэны раслі ў асноўным на прадукцыю, кошт якой рэгулюецца дзяржавай. Але вось само Мінэканомікі так не лічыць.

Амаль 80% беларускіх прадпрымальнікаў не выконваюць цэнавае і антыманапольнае заканадаўства — перакладвае Міністэрства эканомікі праблему з хворай галавы на здаровую. Паводле паведамлення, у першым квартале 2013 года органамі цэнаўтварэння Беларусі праведзена 189 праверак суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, у тым ліку 87 пазапланавых праверак. Парушэнні цэнавага і антыманапольнага заканадаўства былі выяўлены ў 150 праверанах аб'ектаў. Па выніках 718 праверак у 2012 (у тым ліку 112 пазапланавых) парушэнні былі выяўлены ў 512 суб'ектаў.

Да суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, якія дапусцілі парушэнні заканадаўства, Дэпартаментам цэнавай палітыкі Мінэканомікі і гаспадарчымі судамі абласцей ужываліся штрафныя санкцыі. У 2012 годзе вынесена 811 пастаноў аб адміністрацыйным правапарушэнні ў выглядзе штрафу на 12,9 мільярда рублёў, у першым квартале 2013 года — 236 пастаноў на суму 356,1 мільёна рублёў. У даход бюджэту ў 2012 годзе і ў першым квартале 2013 года ўнесена 12,3 мільярда рублёў.

Ну што ж, бюджэт, хаця б штрафамі, але напаўняць трэба. Вось яшчэ адна структура далучылася да дзейнасці па напаўненні бюджэту. УП «Белтэхагляд» ініцыюе павелічэнне штрафаў за несвоечасовае праходжанне дзяржаўнага тэхагляду да 4 базавых велічынь (400 тысяч рублёў), а для легкавых аўтамабіляў, якія выкарыстоўваюцца для камерцыйных перавозак пасажыраў, — да 20 велічынь (2 мільёны). Згодна з дзейным заканадаўствам, дадзенае правапарушэнне караецца папярэджаннем або штрафам да 2 базавых велічынь. У цяперашні час прапановы УП «Белтэхагляд» разглядаюцца ў Міністэрстве транспарту і камунікацый.

Як паведамляе прэс-служба УП «Белтэхагляд», у канцы сакавіка падчас правядзення агульнарэспубліканскай дэкады «Дзяржтэхагляд» было праверана каля 24,7 тысячы аўтамабіляў, у трацінах з якіх былі выяўлены парушэнні тэрмінаў праходжання тэхагляду. Гэта ж якое неаранае поле для «стрыжкі купонаў» з простых грамадзян!

Лепш бы ўсе гэтыя Мінэканомікі і тэхагляды разбіраліся з іншымі рэчамі. Напрыклад, з нашай горача любімай і вельмі шаноўнай прамысловасцю, якая ўкладвае грошы проста ў паветра.

Напрыклад, на тыдні прадстаўнік Мінпрама РБ Вадзім Казлоў выпрошваў ва ўладаў Новасібірскай вобласці дапамогу для зборачнай вытворчасці «Магілёўліфтмаша». Справа ў тым, што «Магілёўліфтмаш» стварыў у Новасібірску сваё прадпрыемства, якое там аказалася нікому не патрэбнае. «Зборачная вытворчасць «Магілёўліфтмаша» была створана, але ў цяпер не працуе з адсутнасці падтрымкі з боку адміністрацыі Новасібірскай вобласці. Гатовыя ліфты закупляюцца, аднак зборачная вытворчасць не працуе», — заявіў Казлоў.

Па словах Казлова, для стварэння зборачнай вытворчасці было выкуплена 3,3 тысячы квадратных метраў вытворчых плошчаў і 1,5 гектара зямлі на тэрыторыі былога завода «Сібсельмаш». Але, як высветлілася, Новасібірску гэтыя ліфты, як ужо казалася, не патрэбныя.

**Сяргей Салаўёў**
**"Новы час"**

НАВУКОВАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ

# МІФ ПРА "СЛАВЯНСКАЕ АДЗІНСТВА" РАЗБУРАНЫ

**Сенсацыйнае даследаванне расійскіх генетыкаў: беларусы і палякі - блізняты-браты, а рускія нават не славяне**

Апошнія вынікі даследаванняў расійскіх навукоўцаў пра генафонд рускага народу цалкам абвяргаюць канцэпцыю аб "усходніх славянах", у тым ліку галоўны міф прыхільнікаў так званай "саюзнай дзяржавы" аб тым, што рускія і беларусы - гэта ледзь не адзін народ: беларусы генетычна вельмі далёкія ад рускіх, затое апынуліся фактычна ідэнтычныя палякам і вельмі блізкія чэхам і славакам. А вось фіны Фінляндыі апынуліся для рускіх куды генетычна бліжэй, чым беларусы.

Гэта значыць беларусы і рускія настолькі розныя, што пасля шматвяковай прапаганды аб "роднаснай крыві беларусаў і рускіх" паверыць у гэта складана, але, падобна, трэба. Бо вынікі даследавання кажуць самі за сябе: генетычна рускія - зусім не "ўсходнія славяне", а фіны. І генетычныя беларусы таксама не "ўсходнія славяне", а ... заходнія, прычым генетычна беларусы практычна не адрозніваюцца ад палякаў, гэта значыць не з рускімі, а з палякамі беларусы на генетычнымузроўні з'яўляюцца "двайнятамі-братамі". Больш за тое, гурт "ўсходніх славян" была прыдуманая расійскімі прапагандыстамі царскіх часоў, каб апраўдаць заняволенне суседніх народаў - украінцы, як і рускія таксама, аказваецца, не маюць ніякага дачынення ні да "усходніх славян", ні да славян наогул! Аб сенсацыйнае даследаванні піша Вадзім Растоў, gumilev-center.ru

«Расійскія навукоўцы завяршылі і рыхтуюць да публікацыі першае маштабнае даследаванне генафонду рускага народа. Апублікаванне вынікаў можа мець непрадказальныя наступствы для Расіі і сусветнага парадку "- так сенсацыйна пачынаецца публікацыя на гэтую тэму ў расійскім выданні" Улада ". А сенсацыя сапраўды атрымалася неверагодная - апынуліся ілжывымі шматлікія міфы аб рускай нацыянальнасці. У тым ліку высветлілася, што генетычна рускія - зусім не «ўсходнія славяне", а фіны.

Вынікі даследаванняў расійскіх навукоўцаў пра генафонд рускага народа яшчэ доўга будуць засвойвацца ў грамадстве, бо яны цалкам абвяргаюць усе існуючыя ў нас прадстаўлення, зводзячы іх да ўзроўню ненавуковых міфаў. Гэтыя новыя веды трэба не столькі зразумець, колькі да іх трэба прывыкнуць. Цяпер абсалютна ненавуковай стала канцэпцыя аб "усходніх славянах», ненавуковымі з'яўляюцца з'езды славян у Мінску, дзе збіраюцца зусім не славяне з Расіі, а рускамоўныя фіны з Расіі, якія генетычна славянамі не зьяўляюцца і да славян ніякага дачынення не маюць. Сам статус гэтых «з'ездаў славян» цалкам дыскрэдытаваны расійскімі навукоўцамі. Рускі народ названы па выніках гэтых даследаванняў навукоўцамі Расеі не славянамі, а фінамі. Фінамі названа і насельніцтва Усходняй Украіны, а насельніцтва Заходняй Украіны генетычна сарматы. Гэта значыць, украінскі народ - таксама не славяне.

Адзінымі славянамі з "усходніх славян" генетычна названы беларусы, але яны генетычна ідэнтычныя палякам - а значыць, з'яўляюцца зусім не «ўсходнімі славянамі», а генетычна заходнімі славянамі. Фактычна гэта азначае геапалітычны крах Славянскага Трыкутніка "ўсходніх славян", бо беларусы апынуліся генетычна палякамі, рускія - фінамі, а ўкраінцы - фінамі і сарматамі.

Вядома, прапаганда будзе спрабаваць і далей гэты факт хаваць ад насельніцтва, але шыла ў мяшку не ўтоіш. Як і не зачыніць рот навукоўцам, а не схаваць іх найноўшыя генетычныя даследаванні. Навуковы прагрэс спыніць немагчыма. Таму адкрыцця расійскіх вучоных - гэта не проста навуковая сенсацыя, а БОМБА, здольная падарваць ўсе цяпер існуючыя асновы ў паданнях народаў. Вось чаму расейскі часопіс «Улада» і даў гэтаму факту вельмі занепакоеную ацэнку: «Расійскія навукоўцы завяршылі і рыхтуюць да публікацыі першае маштабнае даследаванне генафонду рускага народа. Апублікаванне вынікаў можа мець непрадказальныя наступствы для Расіі і сусветнага парадку ". Часопіс не перабольшыў.

*(скарочана)*

**www.belaruspartizan.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.04.2013 у 20.20.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.